№ 25 (3766)

29 сакавіка 2013 г.
Выдаецца з ліпеня 1995 г.
на беларускай
і рускай мовах

Выдавец:
УП «Народная Воля».
Кошт — свабодны.

# Народная Воля

*На простор, на шырокі разлог*
*Выхадзі, мой народ, грамадою...*

*Якуб КОЛАС*

**Да ўвагі!**
*Хто хоча набываць газету ў офісе рэдакцыі — чакаем!*

З ВЯЛІКАДНЕМ!

## Праз таямніцу Пасхі да духоўнага прабуджэння

*(З Пастырскага пасланя арцыбіскупа Тадэвуша Кандрусевіча на Вялікдзень 2013)*



Глыбокапаважаныя святары, браты і сёстры, людзі добрай волі!

«Хрыстус уваскрос!» — «Сапраўды ўваскрос!»

Гэтымі словамі пасхальнага заклiку вітаю і віншую ўсіх вас з радасным і збаўчым святам Уваскрасення Езуса Хрыста, святам, якое з'яўляецца падмуркам нашай веры.

Уваскрасенне Хрыста ёсць пераход да жыцця ў новым вечным вымярэнні. У гэтым крыецца перамога Пасхі як наша збаўленне! Таму разам са Св. Аўгустынам можам казаць, што Уваскрасенне Хрыста ёсць нашай надзеяй, бо ўводзіць нас у новую будучыню.

Да свабоды веравызнання наш народ ішоў шляхамі цярпення і малітвы. Сёння пакрыху забываемся аб тых цяжкіх часах. Але ці ў той жа час наша жыццё мы заўсёды будуем з Богам?

На самай справе ў сучасным свеце ўсё больш і больш праяўляецца практычны матэрыялізм і папулярызуецца стыль жыцця без Бога. Нярэдка чалавек становіцца як быццам прадметам, так што яго вартасць часта мерыцца рахункам у банку, неўтаймаванай пагоняй за багаццем, здольнасцю арганізаваць бізнес, здароўем ці спраўнасцю дастаўляць прыемнасці і г.д. Да гэтага далучаецца прапаганда лібералізму, уседазволенасці, пазасужэнскага сексу, парнаграфіі, насілля, неабмежаванага спажывецтва і шопінгу. З вялікай хуткасцю далей распаўсюджваецца алкагалізм, наркаманія і чума нашага часу — СНІД. Сям'я, як галоўная клетка грамадства, перажывае нябачны дагэтуль крызіс да такой ступені, што прапагандуюцца аднаполыя саюзы з правам усынаўлення дзяцей. Самы вялікі і бясцэнны Божы дар, якім ёсць жыццё, абясцэньваецца, і ім маніпулююць. Свет падзелены. Чалавек усё часцей становіцца на шлях эгаізму, усё больш клапоціцца пра сябе самога і забываецца аб любові да бліжніх.

Сучасная культура вельмі часта падобна да культуры падлеткаў. Важна, каб толькі штосьці круцілася, гудзела, шумела і блішчала. Чалавек, асабліва малады, імкнецца адрозніваца ад іншых і быць арыгінальным сваімі далёка не заўсёды маральнымі паводзінамі, адзеннем, прычоскай, татуіроўкай і г.д. Сучаснымі тэхналогіямі людзі стараюцца змяніць сваё цела. Яны змяняюць дыеты, асяроддзе, памяшканне і г.д. Некаторыя нават становяцца транссексуаламі. Такім чынам сучасны свет усё больш становіцца падобным да велізарнага гіпермаркета, які запоўнены разнастайнымі касцюмамі. Перад ім натоўп людзей, якія ў іх шукаюць сваё ўласнае «я». У гэтым пошуку, які адбываецца без адносін з Богам, яны бясконца пераапранаюцца ў новыя адзенні, што, аднак, не дапамагае ім да канца зразумець саміх сябе. Такім чынам, пошук магчымасці стаць іншым у наш час з'яўляецца знакам адыходу ад Бога як нашага Творцы і Збаўцы, у выніку чаго чалавецтва акунаецца ў духоўную цемру, не могучы адрозніць дабро ад зла.

Духоўным анамаліям сучаснасці неабходна супрацьпаставіць праўду аб годнасці і святасці чалавека як створанага па вобразе і падабенстве Божым (пар. Быц. 1, 26) і адкупленага цярпеннем і Уваскрасеннем Хрыста (пар. 1 Петр 1, 19).

Каб гэта ўчыніць, трэба мець моцную і непахісную веру, якая выплывае з праўды Уваскрасення. Менавіта яна мае фундаментальнае значэнне для хрысціянства і з'яўляецца ключом да разумення хрысціянскага бачання свету.

Сёлетні Вялікдзень вельмі знакавы. Гэта першы Вялікдзень, які мы святкуем з новым папам Францішкам. Менавіта яму Бог даручыў заданне кіравання Паўсюдным Касцёлам у наш, поўны розных выклікаў, час.

Сёлетні Вялікдзень адзначаецца падчас Года веры, і таму мы павінны нанава адкрываць значэнне пасхальнай праўды і ёю ўмацоўваць нашу веру.

Гэты год — таксама год, калі адзначаецца 1700-годдзе славутага Міланскага эдыкту, які прызнаў хрысціянству роўныя правы з іншымі рэлігіямі і гэтым самым даў пачатак яго буйному развіццю, што мела сваю крыніцу ў таямніцы Уваскрасення Хрыста.

У гэтым годзе мы таксама адзначаем 1150-годдзе ўвядзення славянскага пісьменства святымі Мяфодзіем і Кірылам. Гэтая сапраўды рэвалюцыйная падзея дала магчымасць славянскім народам мець Божае слова на славянскай мове.

Сёлета мы святкуем юбілей 400-годдзя прыбыцця цудоўнага абраза Божай Маці ў Будслаў. На працягу чатырох стагоддзяў Марыя была з намі, падтрымлівала нас і вяла да свайго Сына Езуса Хрыста.

Глыбокапаважаныя браты і сёстры!

Яшчэ раз ад усяго сэрца віншую вас са святам Вялікадня. Віншую сваіх адзінаверцаў і тых хрысціян, якія сёння адзначаюць гэтае збаўчае свята. Віншую праваслаўных. Сёлета розніца календароў вельмі вялікая (Пасха ў праваслаўных 5 мая), але вера ва Уваскрасенне Хрыста застаецца адной і адказнасць за яе — супольнай. Віншую людзей добрай волі. Хрыстус збавіў усіх, і ўсе пакліканы прымаць удзел у Яго перамозе.

Ад пустой грабніцы Збаўцы з надзеяй і адвагай разам з новым Пантыфікам Францішкам пойдзем сведчыць праўду Уваскрасення, пойдзем у будучыню — нашу асабістую і нашай краіны, верачы, што яна будзе шчаслівай, бо ўваскрослы Езус ёсць з намі. А калі Бог з намі, то хто супраць нас? (пар. Рым 8, 31)

Поўных Божай ласкі, духоўнай радасці і супакою святаў Вялікадня Хрыстовага ўсім вам!

Няхай пасхальны заклік «Хрыстус уваскрос! Сапраўды ўваскрос!» гучыць на нашай зямлі і будзіць людзей да новага жыцця ва ўваскрослым Езусе!

ДЭМАКРАТЫЯ ПА-БЕЛАРУСКУ

## Сяргея Каваленку зноў будуць судзіць

*Сяргей Каваленка, які стаў вядомы не толькі беларускаму грамадству, але і дэпутатам Еўрапейскага парламента падчас адбыцця пакарання за тое, што на навагоднюю ёлцы ў цэнтры Віцебска замацаваў бел-чырвона-белы сцяг, зноў паўстане перад судом. І адбудзецца гэта сёння. Праўда, гэтым разам суд будзе па адміністрацыйнай справе.*

Колькі было сабрана подпісаў за вызваленне палітвязня, колькі нерваў сваякам каштавала яго галадоўка пратэсту!.. Нарэшце Сяргей Каваленка апынуўся на волі. І што? На практыцы аказалася, што рэпутацыя непрымірымага апазіцыянера яшчэ доўга будзе збіраць пад яго вокнамі людзей у форме і ў цывільным, асабліва ў адметныя даты беларускай гісторыі. Так адбылося і гэтым разам. Яшчэ за дзень да 25 сакавіка супрацоўнікі міліцыі ўсталявалі своеасаблівы пост каля пад'езда яго дома. Увечары апазіцыянер выйшаў па сваіх справах з дома, не паспеў прайсці і некалькі метраў, як яго схапілі, закінулі ў машыну і адвезлі ў міліцыю. Спачатку казалі, што ён




нібыта парушыў правілы дарожнага руху, а потым склалі пратакол за... нецэнзурную лаянку. Нічога новага. Галоўнае, што цяпер сілавікам можна было расслабіцца і спакойна пайсці спаць. Каваленка ж пад наглядам у ізалятары. Там ён дакладна сцяг не вывесіць, а калі раптам і зробіць немагчымае, то начальства ж гэтага не ўбачыць.

Самае непрыемнае, што пратакол складзены, а раз так, то трэба яго разглядаць у судзе. 26 сакавіка на першым пасяджэнні Сяргей Каваленка заявіў, што правапарушэння з яго боку не было, і папрасіў, каб яму далі час заключыць дамову на абарону з адвакатам. Праігнараваць гэта было немагчыма, таму судзіць апазіцыянера будуць сёння. Ці апраўдае суд бацьку дваіх дзяцей? Хутчэй за ўсё, ужо сёння мы пачуем адказ на гэтае пытанне.

## "Маскоўскі" знішчаць?!

Хаця пакуль няма нават праекта будынка "Газпрома", які вырашылі пабудаваць у Мінску на месцы аўтавакзала"Маскоўскі", і нягледзячы на тое, што былі сабраны тысячы подпісаў, каб вакзал не руйнавалі і пакінулі мінчанам, транспартнікі ўжо пераразмеркавалі маршруты на іншыя вакзалы і аўтастанцыі.

Вакзал "Маскоўскі" пачаў працаваць у 1999 годзе. За "арыгінальную архітэктуру грамадзянскіх, прамысловых збудаванняў» аўтараў праекта **Сяргея Рушава, Мікалая Навумава і Леаніда Ваўчэцкага** ўзнагародзілі Дзяржаўнай прэміяй. Асаблівым попытам у гараджан вакзал стаў карыстацца падчас рэканструкцыі Цэнтральнага аўтавакзала. Мінчане прызвычаіліся, што да Нацыянальнага аэрапорта, на Нарач, Барысаў, Жодзіна, Маскву, Вільнюс трэба ехаць з "Маскоўскага". Прапускная здольнасць вакзала — 15.000 пасажыраў у суткі. Дабірацца да вакзала зручна, асабліва гэта тычыцца жыхароў Уручча, Зялёнага Луга, Сцяпянкі. Да таго ж і аўтобус №100 спыняецца акурат насупраць ўваходу, і не трэба далёка цягнуць цяжкі багаж. Але...

Пляваць сталічным уладам на просьбы людзей. Багатых інвестараў вырашылі задаволіць. Каб неяк прыглушыць хвалю абурэння мінчан, летась на розных узроўнях разглядаліся два варыянты лёсу вакзала — альбо знос, альбо перапрафіляванне яго ў рамках будучай забудовы. Толькі транспартнікі, не чакаючы заканчэння конкурсу праектаў, ужо падрыхтавалі альтэрнатыўную схему пасажыраперавозак без удзелу «Маскоўскага».

Такім чынам, аўтобусы Лагойскага і Маскоўскага напрамкаў без змены колькаснага складу плануецца адпраўляць ад дыспетчарскай станцыі «Каліноўскага". У бок Паперні аўтобусы будуць хадзіць са станцыі «Карастаянавай». А ўсе міжгароднія і міжнародныя маршруты, хутчэй за ўсё, перанясуць на аўтавакзал «Усходні»: аўтобусы будуць курсіраваць праз «Цэнтральны», паколькі на ім не прадугледжаны адстой аўтобусаў.

Транспартнікі скардзяцца, што продаж квіткоў скарачаецца. У параўнанні з 2008 годам на прыгарадныя аўтобусы прадалі іх у 1,9 раза менш. Нават студэнты цяпер едуць да бацькоў не кожныя выхадныя, а раз на тры-чатыры тыдні. Сітуацыя не мяняецца толькі на міжнародных перавозках. Там нават падвысілася колькасць прададзеных квіткоў.

Такім чынам, калі «Маскоўскі» зачыняць, то канчатковым пунктам гарадскіх аўтобусных маршрутаў стане дыспетчарская станцыя «Славінскага».

У выпадку ліквідацыі разваротнага кальца для тралейбусных маршрутаў мяркуецца аднавіць тралейбусную лінію па праспекце Незалежнасці і вуліцы Валгаградскай.

А можа, "Маскоўскі" ўсё ж застанецца?

**Любоў ЛУНЁВА.**

ПАД ГРАДУСАМ

## Прыход цяпла адкладваецца

*Сіноптыкі зноў сыпяць соль на раны — замест пралесак беларусы ў хуткім часе атрымаюць новую порцыю снегу.*

Паводле прагнозу, у апошнія дні сакавіка і на пачатку красавіка ў краіне чакаецца вельмі няўстойлівае надвор'е. Зноў пройдуць ападкі ў выглядзе снегу, мокрага снегу, па поўдні і паўднёвым усходзе — з дажджом.

А вось таго, што снежныя гурбы знікнуць з далягляду, у хуткім часе чакаць не трэба. Актыўнае таянне снегу пачнецца толькі ў канцы першай дэкады красавіка. Менавіта ў гэты час пачне падвышацца сярэднясутачная тэмпература паветра. Так што пачатак вясны не наступіць раней за дзясятыя чыслы красавіка.

**У выхадныя** ў Беларусі чакаецца аслабленне маразоў. На большай тэрыторыі краіны пройдзе снег, удзень мокры снег і дождж, месцамі туман, галалёд, на дарогах галалёдзіца. Тэмпература паветра ўначы каля 1—7 градусаў марозу, удзень — ад мінус 1 да плюс 5.

**У нядзелю** пройдзе кароткачасовы снег, мокры снег, снег з дажджом па поўдні краіны. Уначы — ад 0 да 6 градусаў цяпла, удзень — ад мінус 1 да 5 цяпла.

**У панядзелак** па ўсёй краіне пройдуць снегапады, чакаецца мокры снег, месцамі моцны, слабая завіруха, наліпанне мокрага снегу. Уначы слупкі тэрмометраў пакажуць 1—6 градусаў ніжэй за нуль, удзень — ад мінус 2 да плюс 4. Толькі на Гомельшчыне паветра можа прагрэцца да 5—10 цяпла.

**У аўторак** уначы па краіне ад 0 да мінус 6 градусаў, удзень — да 4 градусаў цяпла.

Чакаць рэзкага пацяплення **ў сераду** не варта. СМІ распаўсюдзілі інфармацыю аб тым, што 4 красавіка тэмпература падымецца да плюс 18. Між тым гэтыя прагнозы не спраўдзяцца. Спадзявацца можна на тэмпературу каля 5—6 градусаў вышэй за нуль.

**Марыя МАЛЕВІЧ.**

ПАЛІТЫКА

## У сейме Літвы ствараюць «Дэмакратычную Беларусь»

*Як паведаміў адзін з ініцыятараў стварэння групы дэпутат* ***Эгідыюс Варэйкіс****, за дзве гадзіны сабрана больш як дзесяць подпісаў, а для стварэння групы дастаткова шасці-сямі.*

*«Існаванне такой групы — гэта ўжо шматгадовая традыцыя ў нашым сейме,* — сказаў ён. — *Але паколькі ў новым парламенце (абраным восенню мінулага года) яе пакуль яшчэ няма, мы вырашылі, што трэба стварыць. Гэта будзе група для паразумення з грамадствам Беларусі, з палітыкамі, якія, на жаль, не ўдзельнічаюць у афіцыйным палітычным жыцці».*

*«Сам я прадстаўляю Літву ў Савеце Еўропы і ведаю, чаму Беларусі там няма. А трэба, каб была, але гэта залежыць і ад Мінска. Я б хацеў, каб Беларусь стала нармальнай краінай Еўропы, і не трэба было б увесь час рабіць нейкія выключэнні, вылучаць Беларусь са спісу іншых краін»,* — падзяліўся марай палітык.

Варэйкіс адзначыў, што заўсёды ўдзельнічаў ва ўсіх ініцыятывах, якія тычыліся Беларусі.

*«Але не заўсёды мяне добра разумелі ў Мінску. У мяне няма, так бы мовіць, вольнага ўезду ў Беларусь, я — персона нон грата, хаця і не разумею чаму. Ніякіх злых намераў наконт Беларусі ў мяне няма»,* — сказаў літоўскі дэпутат.

ЧУЛІ?

## Жанчыны жывуць на 11 гадоў даўжэй за мужчын

*У 2012 годзе розніца ў працягласці жыцця паміж мужчынамі і жанчынамі склала 11 гадоў.*

Чаканая працягласць жыцця ў беларускіх мужчын — 66,6 года, у беларускіх жанчын — 77,6 года. Верагоднасць памерці ў мужчын ва ўсіх узростах вышэй, чым у жанчын, але асабліва вялікая гэта розніца ў працаздольным узросце.

У 2012 годзе чаканая працягласць жыцця ў Беларусі склала 72,2 года і ў параўнанні з 2011 годам павялічылася на 1,6 года.

*«Гэта самы высокі ўзровень гэтага паказчыка больш як за 20 гадоў*, — цытуе belta.by начальніка галоўнага ўпраўлення статыстыкі паслуг і дэмаграфічнай статыстыкі Нацыянальнага статыстычнага камітэта **Ірыну Шастакову**. — *Апошні раз паказчык чаканай працягласці жыцця, які перавышае 72 гады, быў у 1985 годзе».*

ДАРЭЧЫ

## Старэеем!

Паводле міжнародных крытэрыяў, насельніцтва лічыцца старым, калі доля асоб ва ўзросце 65 гадоў і старэй складае 7%.

У цяперашні час кожны сёмы беларус (14% жыхароў краіны) знаходзіцца ва ўзросце 65 гадоў і старэй. Такі працэс са старэннем насельніцтва характэрны для большасці еўрапейскіх краін і абумоўлены як невысокімі тэмпамі нараджальнасці, так і павелічэннем сярэдняй працягласці жыцця.

ГОРЬКО!

## Жениха привезли в загс под конвоем

*Необычную регистрацию брака провели в минувшую субботу работники отдела загс Ивацевичского района.*

Если невесту и ее гостей к двери этого учреждения привез кортеж, то жениха Л. под конвоем из изолятора временного содержания доставили сотрудники Ивацевичского РОВД — в специализированном автомобиле. Милиционеры стали невольными гостями торжества, ибо после проведения регистрации (обмена свадебными кольцами, первого танца жениха и невесты и т. п.) сотрудники райотдела отвезли жениха обратно в изолятор. Свадьба продолжилась без него, сообщает "Вечерний Брест".

Вечером накануне собственной свадьбы Л., находясь в состоянии алкогольного опьянения, попал в криминальную историю. Сотрудники милиции арестовали Л. (кстати, ранее судимого) и поместили в изолятор временного содержания, откуда тот и был доставлен на собственную свадьбу.

БУДЬТЕ ГОТОВЫ!

## Проезд опять подорожает

*В 2013 году планируется дважды увеличить стоимость проезда в городском коммунальном пассажирском транспорте Минска.*

Об этом сообщил начальник отдела организации пассажирских перевозок ГУ «Столичный транспорт и связь» **Алексей Косинский**. Правда, пока предложения транспортников по этому поводу не утверждены Министерством экономики. Как сообщает агентство «Минск-Новости», если новые тарифы будут согласованы, то на первом этапе цена одной поездки вырастет до 2000 рублей, на втором — до 2300.

Напомним, что, по информации представителей ГП «Минсктранс», сегодня пассажиры возмещают лишь 37% затрат транспортных организаций.

ПО ПОВОДУ

*Мария ЭЙСМОНТ*

# Пытка болью



***«В нашем хосписе лежал парень — мастер по спортивной стрельбе. Опухоль мозга. Перед смертью у него было три заветных желания, которые мы помогли ему осуществить. Пострелять вдоволь на стрельбище. Порыбачить. Сходить на концерт любимой группы. Он уходил из жизни со словами благодарности паллиативной команде. Но! Если бы мы его не обезболили, ничего бы из этого не получилось».***

Эту историю на конференции в Санкт-Петербурге рассказала главный внештатный специалист по детской паллиативной помощи Министерства здравоохранения Республики Беларусь **Наталья Савва.** И призналась, что сегодня в Беларуси катастрофически не хватает обезболивающих наркотических препаратов в таблетках. Лекарств, без которых тяжелобольные люди, в первую очередь дети, доживающие последние месяцы жизни дома, вынуждены испытывать страшные муки.

О том, что Беларусь относится к странам с низким уровнем обезболивания тяжелобольных людей, специалисты знают давно. Несколько лет назад Всемирная организация здравоохранения рекомендовала Беларуси увеличить назначение наркотиков для обезболивания в... 170 раз! Чтобы понимать масштаб проблемы, можно привести пример соседней Польши, которой ВОЗ также давала подобные рекомендации. Но полякам уровень обезболивания посоветовали увеличить в... 5,4 раза!

Почему в Беларуси возникла такая проблема? Лекарства, позволяющие облегчить страдания, стоят запредельно дорого, и наша медицина не может себе это позволить? Большинство препаратов действительно недешевые, но наш Минздрав не может наладить поставки как раз-таки копеечного лекарственного средства.

Наталья Савва призналась, что медики давно настаивают на регистрации в Беларуси сульфата морфия короткого действия в таблетках. Одна упаковка такого препарата стоит в среднем 3—5 евро. Это копейки по сравнению с другими обезболивающими средствами. Но при этом сульфат морфия — золотой стандарт в помощи тяжелобольным, он используется во всех цивилизованных странах. Особенно важен этот препарат для безнадежно больных детей, потому что помогает умирающему ребенку полноценно прожить оставшееся время в кругу родных: таблетки ребенок может принимать дома самостоятельно. А значит, общаться с друзьями, ходить в кино и в театр. В Беларуси же сегодня все «домашние» обезболивающие предназначены только для взрослых.

То есть выгода от закупки сульфата морфия в таблетках налицо: пациенты, в первую очередь дети, получат удобный обезболивающий препарат, государство на это потратится по минимуму. Однако в Беларусь он не поставляется. В чем дело?

Специалисты называют две причины.

Первая — это борьба с незаконным оборотом наркотиков, которая и сделала назначение этих таблеток невозможным. У борцов с наркотиками есть опасение, что сульфатом морфия в таблетках смогут приторговывать медработники, толкать их налево наркоманам. Хотя как это может выглядеть в реальности, представить сложно. Такого контроля за наркотиками, как в хосписах и медучреждениях Беларуси, нет, пожалуй, ни в одной европейской стране.

Наркотические препараты хранятся в специальных помещениях с решетками на окнах, под сигнализацией и в сейфах. Допуск к препаратам есть у ограниченного числа лиц. Медперсонал расписывается за каждую ампулу, каждую таблетку, а упаковки от использованных препаратов уничтожаются в присутствии сотрудников милиции. Иногда доходит до абсурда: согласно инструкции, если пациент умирает, то оставшиеся обезболивающие, которые были прописаны, должны уничтожаться. Представляете картину. Онкобольной принял 10 таблеток дорогущего, но очень эффективного препарата «Журниста». В упаковке осталось еще 20 таблеток. Но медперсонал не имеет права отдать их другому пациенту — обязан уничтожить. А упаковка «Журнисты» стоит 2 миллиона 700 тысяч рублей. Под видом борьбы с наркоманией идет вредительство какое-то, причем узаконенное. Может быть, уже настало время пересмотреть все эти инструкции, положения? Почему из-за наркоманов должны мучиться нормальные люди, дети? Очевидно, что схемы, которые создали такой очевидный перекос в борьбе с незаконным оборотом наркотиков в ущерб тяжелобольным людям, давно пора ломать.

Вторая и не менее важная причина, тормозящая распространение наркотических обезболивающих, — это нерасторопность наших чиновников от фармации.

Технологией производства сульфата морфия обладают только несколько фармацевтических предприятий, круг фармакомпаний, поставляющих их потребителям, тоже ограничен. Им невыгодно поставлять этот дешевый препарат на наш небольшой белорусский рынок. Потребуется не год и не два, чтобы окупить регистрацию препарата и контроль за его поставкой. Но неужели нельзя привлечь поставщика какими-то преференциями, максимально упростить и удешевить процесс регистрации лекарственного средства? Показать на деле, а не на словах, что умирающие люди в нашей стране не оставлены без помощи, не брошены на произвол судьбы? А это, к слову, входит в обязанности государства, если оно, конечно, считает себя цивилизованным и экономически развитым. Потому что доступ к обезболивающим средствам — одно из прав человека. Отсутствие гособязательств по обезболиванию тяжело и неизлечимо больных людей, согласно международной практике, приравнивается к жестокому обращению, попросту говоря — к пыткам болью. Почему белорусов обрекли на эти пытки?

...Говорят, от сумы и от тюрьмы не зарекаются. Но также никто не застрахован от страшных диагнозов. Неужели кто-то не помнит об этом?!

СТАЛО ИЗВЕСТНО...

# Воробей — это не миф

***Позавчера в Минске прошло годовое собрание акционеров ОАО «Амкодор». О том, что на нем присутствует новый владелец контрольного пакета бизнесмен Николай Воробей, акционеры узнали почти случайно.***

Новость, что один из крупнейших частных белорусских нефтетрейдеров ООО «Интерсервис» является мажоритарным акционером крупнейшего в СНГ производителя специальной дорожной и коммунальной техники ОАО «Амкодор», стала известна в январе этого года. В результате сделки, совершенной на Белорусской валютно-фондовой бирже, новополоцкая компания, не имеющая никакого опыта работы в машиностроении, стала обладателем 562 тысяч 457 акций, что составляет 53,64 процента уставного фонда ОАО «Амкодор». Когда журналисты стали разбираться, кто же реальный покупатель акций одного из самых известных белорусских предприятий, выяснилась интересная деталь.

Фирма «Интерсервис» принадлежит таинственному **Николаю Воробью**. Этот человек, судя по «покупкам», является одним из самых богатых в стране. При этом он никогда не давал интервью, его фотографии даже с каких-нибудь официозных мероприятий нигде никогда не публиковались, застать его на рабочем месте представителям СМИ ни разу не удалось, не увенчались успехом даже попытки хотя бы поговорить с Воробьем по телефону. Просто не человек, а миф какой-то. Тем не менее недавно этот «миф» выделил на подготовку певицы Алены Ланской к конкурсу «Евровидение» первый благотворительный транш: 230 тысяч долларов и более 50 тысяч евро. Об этом сообщил генеральный директор продюсерского центра «Спамаш» **Дмитрий Баранов.**

В том, что Николай Воробей не миф, а живой человек, на этой неделе убедились акционеры ОАО «Амкодор», увидев наконец «нового хозяина» воочию. Хотя очень похоже, что он и на этот раз надеялся покинуть собрание акционеров неопознанным.

— Нам удалось его вытянуть уже в самом конце, когда собрание почти закончилось и шел подсчет голосов, — рассказал «Народной Воле» один из акционеров. — Воробей сидел на собрании, как мышь под веником. Но зато мы увидели, что это все-таки живой человек. Ему лет пятьдесят, круглое лицо, живые глаза. Без охраны.

Что Николай Воробей рассказывает о себе, о своей фирме «Интерсервис» и о том, почему решил купить «Амкодор»?

Почему новый хозяин «Амкодора» не сменил председателя совета директоров **Александра Шакутина?**

Почему и бывший, и нынешний владельцы контрольного пакета ОАО «Амкодор» не жалеют денег на певицу **Алену Ланскую**?

Об этом читайте в ближайших номерах «Народной Воли».

**Ирина МАЛЬЦЕВА.**

СПЕЦЫЯЛЬНЫ РЭПАРТАЖ

# Па крывавым следзе...

***Літаральна за 80—100 крокаў ад шашы Мінск—Слуцк (паблізу Шышчыц) невядомы (ці невядомыя) зламыснікі завалілі лася, дакладней — ласіху-самку разам з эмбрыёнам-ласянём. Так атрымалася, што карэспандэнт "Народнай Волі" адным з першых апынуўся на месцы злачынства.***

Едучы на Случчыну — маю малую радзіму, звычайна прыпыняюся ў прыдарожнай шышчыцкай кавярні: кубачак духмянай кавы — што лепш у дарозе ды яшчэ пад сакавіцкі марозік з сонейкам! Так было і гэтым разам, калі на радзіму паклікаў чытацкі ліст. Але з адной папраўкай: за пару кіламетраў ад Шышчыц згледжваю на абочыне некалькі легкавікоў, мікрааўтобус і міні-грузавічок, побач — некалькі мужчын... Але ці мала што: паломка якая, ці "стрэлку" хто забіў. Канечне, на хуткасці і праскочыў.




Ужо ў кавярні памяць пакадрава пракруціла эпізод: мікрааўтобус з сінімі нумарамі, яшчэ людзі ў камуфляжы, вытаптаная па снежным цаліку сцяжына ў напрамку балоцістага падлеску. Не, штосьці там не так... Каб не вярэдзіць "мазгавеньку", кідаюся ў драндулет і паварочваю "аўтааглоблі" ў зваротны бок. Вось і на месцы. Падыходжу да кампаніі, перад тым заўважаючы, што тут і міліцэйскія, і егеры, і нават людзі са Следчага камітэта... Значыцца, нешта сур'ёзнае.

Звяртаюся да аднаго з мужыкоў: маўляў, нішто сабе кампанія — ці не аблаву на каго ўчынілі? Маўляў, магу падмагчы, калі што...

А той і кажа:

— Якая цяпер аблава?! Іх след прастыў... Шасейка за два крокі, ствалы ў багажнік, самі па газах — і іхняе нам "з люцікамі"...

Нічога дакладна не ведаючы, сяку напрамкі: каго ж завалілі тыя нехрысці — лася ці ласіху?

— У тым і жах, — кажа, — што ласіху ды яшчэ з маленькім ласяняткам... Паскуды!

Толькі дзяцюк гэтак выдыхнуў, смачна сплюнуўшы на гразкую абочыну, як падскоквае да мяне міліцыянт і адразу так па-начальніцку:

— Вы кто такой? Нечего вам здесь делать. Ехали бы себе дальше...

Прыйшлося прадставіцца: маўляў, журналіст я, магу паказаць пасведчанне, маўляў, калі ёсць факт браканьерства, дык хачу неяк засведчыць, хаця б з вашых вуснаў, ды паведаміць чытачам — ім жа цікава... Але афіцэр і слухаць не хоча — не паложана, бачыш...

Пытаюся ў "служакі", хто тут галоўны, хто можа пракаментаваць ці адказаць на пару маіх пытанняў.

— Вунь той, што ў чорнай куртцы", — паказвае ў бок больш маладжавага, на спіне якога трафарэцік "Следчы камітэт".

Іду ўслед за ім па добра ўжо вытаптаным снезе... За якія семдзесят крокаў, сярод хмызу і лазняку — карціна, вартая пэндзля Тулуза Латрэка: на бялюткім снезе туша велізарнай ласіхі з задранымі ў неба капытамі, вакол маўклівыя егеры, пару міліцыянтаў... Адзін з мужыкоў ужо садраў частку кудлата-бурай шкуры, успароў жываціну — на паверхню вылез пухір велічынёю з вялізны гарбуз... У марознае паветра ўздымалася вантробная пара. І тая пара разам са спецыфічным пахам свежай дзічыны сведчылі, што ласіха сканала зусім нядаўна.

Дык хто ж яны — злыдні, што пакваліліся на жыццё прадаўжальніцы ласінага роду?!

Вылучыўшы момант, спрабую загаварыць са следчым. Зноў яму пра свой інтарэс. Нават пра тое згадаў, што некалі рэдагаваў часопіс "Охота и рыбалка», што зацікаўлены не толькі асабіста я, што народ павінен ведаць пра такія жудасныя факты, ну, і ўсё астатняе... Але следчы перабіў: ніякіх каментарыяў, ніякай інфармацыі... Канечне, зразумець яго можна — як-ніяк, а расследаванне па гарачых, крывавых, можна сказаць, слядах... А з другога боку: няўжо складана выціснуць з сябе — для прадстаўніка прэсы, значыцца, і для грамадзян Беларусі — хоць колькі слоў пра здарэнне?.. Не, хутчэй за ўсё, нашых "пінкертонаў" вучаць прафесійнай справе па вельмі скарочаным курсе, апусціўшы з яго раздзельчык пра ўзаемаадносіны з прадстаўнікамі прэсы. Інакш бы паводзілі сябе ў адпаведнасці з Законам аб друку і ўвогуле стандартамі ўсяго цывілізаванага свету. Зразумеўшы, што ад "камуфляжнікаў" ніякага толку, закідваю апошнюю "нажыўку": прашу хоць сфатаграфаваць лася — хай хоць такі "трафей", чым з садранай шкурай... Дзе там!.. Не далі.

Перад тым як зноўку выправіцца на Слуцк, загаманіў з першым суразмоўцам на абочыне... Егер, калі меркаваць па ўніформе, паведаміў напаўшэпт, што стралялі з гладкаствольнай зброі, што ніякіх слядоў, ніякіх гільзаў няма... І гэта ўскладніць расследаванне, паколькі бандзюганы-браканьеры ўсё разлічылі: калі б грохнулі з нарезной стрэльбы, з карабіна, то дастаткова было кулі, гільзы, каб вылічыць тых прайдзісветаў. А так — шукай ветру ў полі...

Напаследак пытаюся: якога чорта было валіць ласіху (туша, па-мойму, цягне на ўсе 450 кіло), кінуўшы яе потым сярод заснежанага хмызу? Браканьернічаюць з-за трафея, з-за ласіных рог, з-за мяса... А тут — забойства дзеля забойства? Ці іх нехта напужаў, збіў з тропу?..

— Складана ўсё гэта, — з неахвотай кранае балючае вусаты дзяцюк, — следства нешта высветліць. Тут увогуле такая рэч: па той бок шашы — угоддзі Слуцкага дзяржаўнага лясгаса, а па гэты — дзе ўсё здарылася — прыватная паляўнічая гаспадарка. Ёю кіруе дырэктар саўгаса "Слуцк" Васіль Васільевіч Ачапоўскі. Чалавек ён вельмі паважаны ў раёне, выдатны гаспадарнік. Але самае галоўнае — гарачы прыхільнік і абаронца прыроды. На дух не выносіць браканьераў: паляванне ў ягоных угоддзях — строга ліцэнзійнае, бывае, і замежнікі прыязджаюць. То, можа, усё гэта і стала ўпоперак горла мясцовым аматарам пажывіцца на дармаўшчынку, хто ж яго ведае... Магчыма, вырашылі правучыць Васіля Васільевіча, насаліць яму неяк, — заключае суразмоўца, — але гэта толькі версія, меркаванне... Усё павінна высветліць следства.

...Ужо вяртаючыся ў сталіцу, не вытрываў — прыпыніўся ля месца здарэння. Цяпер ужо нікога не відаць. Там, дзе ляжала ласіха, — адно крывавы след ды парэшткі вантробаў, якія мясцоваму мясакамбінату — ні да якой патрэбы... Ці прывядзе гэты след нашых "пінкертонаў" да зламыснікаў? Пакуль пытанне адкрытае...

**Георгій ЧЫГІР.**
**Фота аўтара.**



РЭГІЁНЫ

## *На адну кватэру — 14 прэтэндэнтаў*

*Першы арэндны дом, узведзены ў Брэсце, толькі абудзіў апетыт тых, хто мае патрэбу ў паляпшэнні жыллёвых умоў. Кватэр усяго 80, а прэтэндэнтаў на іх — больш за тысячу...*

Ідэя з арэнднымі дамамі прыйшлася беларусам даспадобы. Стаўкі на жыллё, якое трэба арандаваць у дзяржавы, куды меншыя, чым у прыватнікаў. За аднапакаёўку ў арэндным доме Брэста папросяць усяго 630—640 тысяч рублёў. А ўласнік не заключыць дамову з арандатарам менш як за 860 тысяч.

Права на засяленне ў арэндныя дамы маюць толькі тыя, хто стаіць на ўліку грамадзян, што маюць патрэбу ў паляпшэнні жыллёвых умоў ці ўжо будуюць сваю кватэру.

Зараз у Брэсцкім гарвыканкаме каля 1,2 тысячы заявак на таннае арэнднае жыллё. Чэргаў тут не фарміруюць, а адбіраюць жыхароў на конкурснай аснове. У планах на бліжэйшы час пабудаваць яшчэ два арэндныя дамы. Праўда, і гэтага жылля не хопіць для ўсіх жадаючых...

## *Жанчына, што пацярпела ад выбуху на Лынтупскім спіртзаводзе, памерла ў рэанімацыі*

*26-гадовая жанчына памерла праз некалькі гадзін пасля дастаўкі ў шпіталь.*

Днямі на Лынтупскім спіртзаводзе ў Пастаўскім раёне выбухнула ёмістасць з сівушным спіртам. Траўмы атрымалі чатыры чалавекі.

Зараз у рэанімацыі знаходзіцца 48-гадовая жанчына з чэрапна-мазгавой траўмай. Яе стан ацэньваецца як стабільны.

Апёкі атрымалі 22-гадовая жанчына і 32-гадовы мужчына. Яны знаходзяцца ў хірургічным аддзяленні.

Следчыя распачалі крымінальную справу па факце выбуху на Лынтупскім спіртзаводзе.

## *Цвярозы беларус пасварыўся з жонкай, а падпаліў цешчу*

*Жыхар вёскі Кажан-гарадок Лунінецкага раёна вырашыў, што лепшы спосаб вярнуць жонку — спаліць дом яе маці...*

Аднавяскоўцы бачылі, што 46-гадовы селянін ідзе да дому цешчы з 20-літровай каністрай бензіну, і нават намагаліся яго спыніць, але ніхто не чакаў, што мужчына разаб'е акно і закіне ў дом адчыненую каністру і палаючую запалку...

На шчасце, ад дзеянняў "тэрарыста" ніхто не пацярпеў. Пажар патушылі, але агнём пашкоджана кухня. Пацярпелая лічыць, што на рамонт спатрэбіцца больш за 5 мільёнаў рублёў.

Чаму ў мужчыны здалі нервы? Нават блізкія не могуць дакладна сказаць. Сам падпальшчык не п'е, працуе ў Расіі і на беднасць не скардзіцца. За дзень да здарэння ад яго сышла жонка. Жанчына забрала дзяцей і накіравалася ў матчын дом, які і хацеў спаліць правапарушальнік.

## *Пенсіянерка гуляла ў фею і зарабіла 5 тысяч долараў*

*60-гадовая жыхарка Гомеля брала са знаёмых грошы за пратэкцыю, а на справе проста прысвойвала грошы.*

Паслядоўніца Астапа Бэндэра ўсім сваім знаёмым сцвярджала, што ў яе "доўгія рукі" і паўсюдна ёсць свае людзі. Таму тыя, хто хацеў уладкавацца сваё дзіця ва ўніверсітэт, усталявацца на працу ў міліцыю ці вырашыць іншыя пытанні, звярталіся да яе. І насамрэч мары здзяйсняліся. Вось толькі "ўплывовая" жанчына не мела да гэтага ніякага дачынення.

Няладнае пачала падазраваць адна з кліентак пенсіянеркі. Калі міліцыя правяла праверку, аказалася, што жанчына прысвоіла каля 5 тысяч долараў і 2 мільёны рублёў. Бліжэйшыя тры гады яна правядзе за кратамі.

**Марыя МАЛЕВІЧ.**

АКТУАЛИИ

*Светлана КАЛИНКИНА*



# Министр Жарко замахнулся на референдум?

Давайте все-таки определимся. Либо Конституция Республики Беларусь существует, либо ее надо окончательно перенести на полки с книгами жанра «Фантастика», а предмет «Конституционное право» признать лженаучным, как когда-то таковым признали «Научный коммунизм».

Сейчас в Палату представителей поступили поправки в закон о здравоохранении, согласно которым если ты попал в больницу в состоянии алкогольного опьянения, то за лечение придется платить. Одни, совсем забыв, что их суточная доза валерьянки обеспечит стойкий запах алкоголя изо рта и потянет на небезобидное количество промилле, говорят: «Правильно, нечего лечить этих алкоголиков, и так мест в больницах не хватает!» Другие, как я, например, утверждают: «Неправильно, потому что с завсегдатаев ЛТП и на дыбе копейки не вытрясешь, а пострадают от этого закона только нормальные люди».

И мы можем поубиваться в этих спорах, с обеих сторон демонстрируя некоторые признаки, присущие людям пьющим, — в частности, вспыльчивость, чрезмерную эмоциональность, агрессивное возбуждение. Но если бы сам министр здравоохранения Жарко, готовя проект, рассуждал трезво, то для начала он бы полюбопытствовал, можно ли законом о здравоохранении внести изменения в Конституцию.

Потому что в статье 45 Конституции записано, как говорится, черным по белому: «Гражданам Республики Беларусь гарантируется право на охрану здоровья, включая бесплатное лечение в государственных учреждениях здравоохранения».

Может ли врач лишить человека белорусского гражданства? Не может. Даже президент не может. В статье 10 все той же Конституции зафиксировано: «Никто не может быть лишен гражданства Республики Беларусь». Никто! Ни пьяный, ни трезвый, ни дурак, ни умный, ни лысый, ни с дредами...

Значит, прежде чем принимать подготовленный Минздравом закон, надо как-то определяться с Конституцией. Либо народ на референдуме должен проголосовать, что на время алкогольного опьянения человек лишается белорусского гражданства, не позорит национальный паспорт и платит за лечение. Либо все тот же народ на референдуме должен уточнить статью 45 Конституции, указав, что *«право на бесплатное лечение в государственных учреждениях здравоохранения гарантируется только трезвым гражданам Республики Беларусь».* Ну и третий вариант — оставить все как есть. Потому что ставка налогов, за счет которых и содержится медицина, одинакова и для трезвенников, и для любителей поднять рюмашку.

В любом случае министр здравоохранения со своей идеей, подсказанной, не исключаю, вице-премьером Тозиком, явно превысил полномочия, взяв на себя инициативу по изменению Конституции. Между тем таким правом обладают не министры и не вице-премьеры. Таким правом обладает либо президент, либо 150 тысяч граждан-избирателей (ст.138).

Жарко себя приравнял к президенту?.. Возникают и другие вопросы.



НУ И НУ!

# На что способны брестские милиционеры

***Милиция задержала безработного как «нелегального распространителя» прессы.***

56-летний брестчанин Славомир Григорович последние семь лет проработал водителем автобуса одного из коммерческих маршрутов. Уволился по состоянию здоровья — стало пошаливать давление. Помаявшись без работы, решил получить статус официального безработного и месяц назад отправился в управление по труду, занятости и соцзащите населения Брестского горисполкома, чтобы встать на учет. Надеялся, что там, возможно, подберут подходящую работу, да и пособие по безработице не помешает.

В коридоре управления образовалась очередь, в которой Славомир разговорился с соседом. Речь зашла о трудовых «заморочках». Григорович, как член официально зарегистрированного Белорусского профсоюза радиоэлектронной промышленности (РЭП), имел при себе два экземпляра «Заводской проходной» — информационного бюллетеня Брестского регионального отделения республиканского профсоюза РЭП и два экземпляра «Рабочей солидарности», центрального бюллетеня профсоюза РЭП. Кстати, оба бюллетеня имели выходные данные: отпечатано на множительной технике профсоюза РЭП в Минске, распространяется на правах внутренней документации бесплатно, тираж — 299 экземпляров. В брестском выпуске говорилось также о бесплатной консультации правового юриста отделения и был указан его телефон. Кандидат в официальные безработные стал показывать бюллетень товарищу по несчастью и громко рассказывать о правовой помощи таким, как и они сами, бедолагам.

В это время из одного кабинета службы занятости вышла какая-то сверхбдительная дама, работница управления, которая сделала Славомиру замечание: «*Что вы здесь распространяете газеты?» — «А вы кто такая, как ваша фамилия?*» — в свою очередь спросил он. «*Буду вызывать милицию!*» — припугнула дама.



*«Я ничего не нарушаю»,* — ответил Григорович.

Григорович встал на учет в службе занятости. Но в коридоре его уже ждал дежурный охранник из милицейской военизированной сторожевой охраны, который задержал безработного до прибытия вооруженного наряда милиции. В его составе находились (судя по бейджикам) старшина **Вячеслав Сваржевский** и прапорщик **Андрей Навценя,** которые, не долго думая, препроводили Славомира в отдельную комнату с зарешеченными окнами, которую открыл охранник. Затем вызвали местного участкового инспектора, который повел «нарушителя спокойствия» в Ленинский РОВД. Там участковый сдал задержанного старшему оперативному дежурному майору милиции **Анатолию Гребню.**

Все попытки Славомира получить письменный ответ на вопрос, за что его задержали, не увенчались успехом. *«Раз вы не можете объяснить, за что я сижу, тогда я пойду»,* — сказал Григорович и ушел, и никто его не остановил.

Через два дня после случившегося он отнес заявление о случившемся в прокуратуру Ленинского района Бреста, где просил провести проверку по факту его задержания и дать ему правовую оценку. Но его переадресовали в Брестский межрайонный отдел Следственного комитета РБ. Спустя две декады он наконец получил ответ от заместителя начальника ОВД администрации Ленинского района г.Бреста **А.Кугача** (№1897 от 13.03.2013 г.): *«Сообщаем, что по факту распространения печатной продукции неустановленного образца, имевшему место 22.02.2013 года ...ОВД администрации Ленинского района г.Бреста проведена проверка. В ходе которой установлено, что в Ваших действиях состав административного правонарушения, установленного ст.22.9 КоАП Республики Беларусь (нарушение законодательства о средствах массовой информации), не усматривается, так как распространяемая Вами литература... не является средством массовой информации.* ***Таким образом, в отношении Вас административный процесс начат быть не может. Руководствуясь п.2 ч.1 ст.9.6 ПИКоАП Республики Беларусь, ч.1 п.2 ст.10.26 ПИКоАП Республики Беларусь, вынесено постановление о прекращении дела об административном правонарушении».***

И ни слова извинения за допущенные неудобства, за досадную ошибку! Ясно, что с таким подходом к «нарушителям» милиционеры без работы не останутся.

Как сложились у Григоровича дела на трудовом фронте? Как и положено, 20 марта ему открыли счет в одном из отделений «Беларусбанка», куда официальному безработному перечислили месячное денежное пособие — 105 тысяч рублей. В пересчете на 500-граммовый батон «Заречный» (по 6800 рублей), который он любит, в месяц ему полагается аж 15 с половиной таких батонов и ни грамма колбасы или масла. С другой стороны, это намного больше, чем в блокадном Ленинграде. Вот и вся государственная помощь по безработице.

В то же время он узнал, что зарплата у соседа, старшего лейтенанта милиции, — в пределах 6 миллионов рублей. Плюс к отпуску на оздоровление ему положено двухмесячное денежное содержание...

**Александр КОВАЛЬЧУК.**
*Брест.*

БРУДНЫЯ ГРОШЫ

## *Судмедэксперты зараблялі на нябожчыках*

*У Брэсцкай вобласці ў дачыненні да службовых асоб аддзела агульных экспертыз абласнога ўпраўлення судмедэкспертызы ўзбуджаны крымінальныя справы за крадзеж шляхам злоўжывання службовымі паўнамоцтвамі.*

Пра гэта паведаміла старэйшы оперупаўнаважаны па асабліва важных справах Галоўнага ўпраўлення па барацьбе з эканамічнымі злачынствамі крымінальнай міліцыі МУС **Вераніка Пасмецьева.**

Падазроныя пад маркай збірання платы за правядзенне судова-медыцынскай экспертызы трупаў у выхадныя дні завалодвалі



грашовымі сродкамі сваякоў памерлых у памеры ад 500 тысяч да 1,5 млн беларускіх рублёў.

*«Сваякі, перажываючы боль страты, аддаюць апошнюю даніну памяці і ахвяруюць часта апошнія грошы, каб годна праводзіць у апошні шлях нябожчыкаў. А дзе звышпрыбыткі, там і крымінал»,* -- цытуе belta.by Пасмецьеву.

ЦИТАТНИК

## Тамара ВИННИКОВА:

# «За мою безопасность вообще никто не платил ни одного доллара...»



Таинственная смерть Бориса Березовского, по сути, обрубила все концы его многочисленных прижизненных тайн. Опальный российский олигарх, которого называли «великим комбинатором», унес их в могилу. Возможно, в их числе и неподтвержденное пока участие Березовского в судьбе бывшего руководителя Нацбанка Беларуси Тамары Винниковой, которая уже 13 лет живет в Лондоне.

Помогал ли Березовский Винниковой бежать из Беларуси?

«*С Борисом Березовским я действительно была знакома*, — цитирует Винникову сайт naviny.by. — *Но не настолько, чтобы он за мою безопасность платил 10 миллионов долларов. Пользуясь случаем, хочу сказать, что за мою безопасность вообще никто не платил ни одного доллара. Никто и никогда не выступал посредником между мной и Лукашенко хотя бы потому, что я ни к кому не обращалась с подобными просьбами не только в той сложной для меня ситуации, но и вообще, на протяжении всего моего жизненного пути. Я все свои проблемы всегда решала только сама лично»*.

### Как это было

Экс-председатель правления Национального банка 14 января 1997 года указом Александра Лукашенко была отстранена от занимаемой должности. В тот же день она была задержана по подозрению в совершении должностного преступления и причинении ущерба государству в особо крупных размерах. Какое-то время Тамара Винникова содержалась под стражей в следственном изоляторе КГБ. Однако позже из-за проблем со здоровьем она была выпущена под подписку о невыезде и помещена под домашний арест. 7 апреля 1999 года Винникова исчезла. В декабре того же года беглянка объявилась в Великобритании и сделала заявления, что *«находится в Лондоне в статусе политического беженца»* и что *«ее преследуют белорусские власти именно по политическим мотивам»*.

З ПЕРШЫХ ВУСНАЎ

## Валянцін СТЭФАНОВІЧ:

# “Беларускім праваабаронцам фактычна немагчыма атрымаць фінансавую дапамогу з-за мяжы...”

***Прынята рэзалюцыя ААН з мэтай пакласці канец фінансаваму ўдушэнню няўрадавых дэмакратычных арганізацый у розных краінах свету. Наколькі гэты дакумент актуальны для Беларусі? Чаму рэзалюцыю называюць беспрэцэдэнтнай? Ці можа яна паўплываць на лёс Алеся Бяляцкага? Аб гэтым карэспандэнт “Народнай Волі” гутарыць з праваабаронцам Валянцінам СТЭФАНОВІЧАМ.***

— Рэзалюцыя была прынята 21 сакавіка, — распавядае суразмоўца. — Для Беларусі гэты дакумент удвая актуальны, таму што справа нашага калегі Алеся Бяляцкага наўпрост звязана з тым, што ён атрымаў 4,5 года за атрыманне фінансавай дапамогі ад замежных фондаў менавіта для праваабарончага цэнтра “Вясна”, які быў у свой час зачынены ўладамі. А ў прынятай рэзалюцыі сцвярджаецца, што “ніякі закон не павінен крыміналізаваць або пазбаўляць легітымнасці дзейнасць у абарону правоў чалавека з прычыны паходжання фінансавання”. Дадам, што напярэдадні было і рашэнне Рабочай групы ААН па адвольных затрыманнях па справе Бяляцкага, у якім падкрэсліваецца, што дзяржава мае не толькі так званыя “негатыўныя” абавязацельствы (неўмяшальніцтва ў дзейнасць праваабарончых арганізацый), але і “пазітыўныя” – спрыянне і стварэнне належных ўмоў для такой дзейнасці. Існуюць міжнародныя нормы, якія гарантуюць права атрымання фінансавання з-за мяжы. І ў выпадку з Алесем яго асуджэнне кваліфікавана менавіта як парушэнне дзяржавай арт.22 Міжнароднага пакта аб грамадзянскіх і палітычных правах, а менавіта – свабоды асацыяцый. Гэта вельмі знакавае рашэнне з боку ААН. І Беларусь, згодна са статутам ААН, павінна яго выконваць.

**— Рабочая група ААН канстатавала, што выхадам з сітуацыі было б вызваленне спадара Бяляцкага і прадастаўленне яму законнага права на кампенсацыю...**

— І канстатавала, што сродкі, атрыманыя на замежны банкаўскі рахунак праваабаронцы, былі часткай сістэмы фінансавання няўрадавай арганізацыі "Вясна", якой урад адмовіў у рэгістрацыі.

**— Ці не здарыцца так, што беларускі ўрад у чарговы раз проста праігнаруе чарговую рэзалюцыю?**

— Магчыма, і так, але ж, паўтаруся, размова ідзе пра выкананне міжнародных абавязацельстваў у галіне правоў чалавека, якія беларускі бок добраахвотна на сябе ўзяў. Я мяркую, што будуць і нейкія наступныя крокі, скіраваныя на тое, каб нагадаць Беларусі аб гэтым. Магчыма, варта чакаць зваротаў у МЗС з боку міжнародных праваабарончых арганізацый, бо менавіта МЗС адказвае за выкананне міжнародных дамоў. Улады, натуральна, пры кожным зручным выпадку падкрэсліваюць, што “справа Бяляцкага” — звычайны крымінал, але ўсім добра вядомы яе палітычны падтэкст. Высновы суда, што сродкі, якія паступалі на рахунак, з’яўляліся яго асабістым прыбыткам, не былі падмацаваны адпаведнымі доказамі. А ўказанні пракуратуры г.Мінска аб неабходнасці накіравання запытаў у адпаведныя фонды, каб устанавіць мэты пералічэння грошай, так і не былі выкананы ні следствам, ні судом. Хоць, паводле нашага падатковага заканадаўства, грашовыя сродкі, якія скіраваны для перадачы трэцім асобам, не абкладаюцца падаткам.



**— Чаму беларускія праваабаронцы называюць рэзалюцыю беспрэцэдэнтнай?**

— Таму што раней такога кшталту дакументаў не было. Гэта вельмі важна для такіх краін, як Беларусь, Алжыр, Бангладэш, Бахрэйн, Егіпет, Азербайджан, нават Расія... Дарэчы, у Расіі адбыліся апошнія змены ў заканадаўстве, і зараз там арганізацыі, якія атрымліваюць замежнае фінансаванне, павінны самі сябе задэклараваць як замежныя агенты. Пачаліся таксама рознага кшталту пераследы няўрадавых арганізацый. А ў нас мала таго, што дзейнасць незарэгістраваных арганізацый разглядаецца як крымінальнае злачынства, дык і атрыманне замежнай дапамогі знаходзіцца ў гэтым жа прававым полі. Механізмы, якія існуюць ў краіне, фактычна робяць немагчымым атрыманне такой дапамогі з-за мяжы для праваабарончых арганізацый. У нас дзяржава вырашае, ці можа тая ці іншая арганізацыя атрымліваць фінансаванне. А гэта ўжо ўмяшальніцтва ў дзейнасць арганізацый.

**— Ці можа быць для беларускіх праваабаронцаў нейкі практычны эфект ад прынятай ААН рэзалюцыі?**

— Наша праваабарончая работа цалкам адпавядае тым міжнародным абавязацельствам, якія ўзяла на сябе Беларусь і якія яна павінна паважаць і выконваць. Гэта, магчыма, ніяк не паўплывае на далейшы лёс Алеся Бяляцкага, але рэзалюцыя легітымізуе нашу дзейнасць у вачах міжнароднай і беларускай грамадскасці. Гэта тое, чым мы заўсёды кіруемся. Таму сёння мы патрабуем неадкладнага вызвалення Алеся Бяляцкага і выканання Беларуссю ўзятых на сябе міжнародных абавязацельстваў.

**Алесь СВЯТЛАНІЧ.**

### КАМЕНТАРЫІ З НАГОДЫ

**Суэр БЕЛХАСЕН, прэзідэнт Міжнароднай федэрацыі за правы чалавека:**

*— Рэзалюцыя — гэта моцны сігнал падтрымкі, дасланы Арганізацыяй Аб’яднаных Нацый абаронцам ва ўсім свеце, якія не маюць магчымасці фінансавання іх дзейнасці, пазбаўлены законнага статусу і часта трапляюць пад крымінальную адказнасць за сваю праваабарончую працу. А рашэнне Рабочай групы ААН — гэта знакавая перамога, так як яно прызнае, што заключэнне Алеся Бяляцкага адвольнае з пункту гледжання міжнароднага права, і падкрэслівае права на фінансаванне незалежных НДА. Алесь Бяляцкі павінен быць неадкладна вызвалены, і ганенні супраць праваабаронцаў павінны быць спынены.*

**Джэральд СТЭЙБРОК, генеральны сакратар Сусветнай арганізацыі супраць катаванняў:**

*— Мы вітаем прыняцце гэтай важнай рэзалюцыі, праз якую Савет па правах чалавека ААН заклікае да больш надзейнай абароны такіх суб’ектаў перамен і гарантаў свабоднага грамадства. Дзяржавы абавязаны забяспечыць умовы, каб праваабарончыя НДА мелі магчымасць доступу да фінансавання.*

**Вольга АБРАМЕНКА, дырэктар АДЦ “Мемарыял” у Санкт-Пецярбургу:**

*— Новыя законы, прынятыя ў Расійскай Федэрацыі для рэгулявання НДА, выкарыстоўваюцца для нападу на грамадзянскую супольнасць: у дадзены момант у Маскве, Санкт-Пецярбургу і іншых месцах Расіі шмат якія незалежныя НДА адначасова правяраюцца паліцыяй, пракурорамі і нават падатковай і пажарнай інспекцыямі з асаблівым акцэнтам на крыніцы фінансавання. Гэта відавочна рэпрэсіўная кампанія супраць абаронцаў правоў чалавека, і таму важна атрымаць міжнародную салідарнасць і падтрымку.*

КРИМИНАЛ

# Из Стокгольма — на нары

***Оперативники ГУБОПиК МВД задержали еще одного белорусского вора в законе, который восемь лет находился в международном розыске.***

В Беларусь 38-летнего **Дмитрия Галеева** депортировали из Швеции — он был задержан накануне в Стокгольме за нарушение миграционного режима.

*«Оказалось, что в Швеции, где вор в законе проживал на протяжении последних трех лет, он находился нелегально, не имея ни вида на жительство, ни даже въездной визы*, — сообщает информационное агентство «Прайм-Крайм». — *Решение о его депортации было принято без промедления»*.

*«Дмитрия Равильевича Галеева по кличке «Галей» взяли под стражу вечером 26 марта сразу после посадки самолета в Национальном аэропорту Минск»*, — говорит сотрудник Управления информации и общественных связей МВД **Александр Марченко**.

Галей с 2005 года находился в международном розыске, объявленном белорусскими милиционерами. В 2003 году арестованный совершил преступление, предусмотренное ч.3 ст.208 УК (вымогательство в составе организованной преступной группы). Тогда злоумышленник и его подельники, угрожая жителю Жодино, требовали у него 18 тысяч долларов США. После проведения оперативно-розыскных мероприятий удалось установить пятерых подозреваемых, в отношении которых в 2004 году было возбуждено уголовное дело. Трое злоумышленников были задержаны сразу и в последующем осуждены на длительные сроки лишения свободы, а Дмитрию Галееву и еще одному участнику группировки **Виталию Пухнаревичу** удалось скрыться за границей. Последний, к слову, до сих пор находится в международном розыске».

В МВД говорят, что *«в ближайшее время с Галеем будут проведены необходимые следственные действия»*. За совершенное преступление беглецу грозит наказание в виде лишения свободы сроком до 15 лет с конфискацией имущества.

*«Воровской стаж Дмитрия Галеева насчитывает полтора десятка лет, он признается самым влиятельным белорусским «законником»*, — информирует www.primecrime.ru.

Не так давно еще четыре белорусских вора в законе, которые в декабре прошлого года были коронованы на воровской сходке в Дубае, были задержаны в России.

**Вера ВИР.**

ПАРАЛЕЛІ

# *Траецкае прадмесце даражэйшае за Стары горад Вільнюса*

*Суседняя сталіца цяпер вабіць беларусаў не толькі добрымі ўмовамі для шопінгу. Кватэры ў Вільнюсе нават у прэстыжных раёнах таннейшыя за беларускія.*

Мець прасторную кватэру ў цэнтры горада, напэўна, марыць кожны другі мінчанін. Жыццё ў самым цэнтры горада мае свае станоўчыя і адмоўныя бакі. Блізкае метро, прыстойныя суседзі і добры від з акна не заўжды кампенсуюць дрэнную экалогію, шум і адсутнасць банальных гастраномаў пад бокам. Да таго ж жыллё ў цэнтры Мінска каштуе ну надта дарага. Асабліва калі ўлічыць, што большасць дамоў — далёка не навабуды.

Так, агенцтва нерухомасці “Сільван” прапануе набыць кватэру ў самым сэрцы сталіцы — гістарычным Траецкім прадмесці



— за **390 тысяч долараў**. Чатырохпакаёўка (81,5 $м^2$) па Старавіленскай вуліцы пабудавана ў 1983 годзе і не мае ніякіх выбітных якасцяў, акрамя *“вельмі прыгожага віду з акна”*.

Гістарычны цэнтр у Мінску зусім невялікі, магчыма, таму кватэры тут такія дарагія. Бо ў самым цэнтры Вільнюса аналагічнае жыллё куды танней. Напрыклад, трохпакаёвая кватэра плошчай 91 квадратны метр у Старым горадзе літоўскай сталіцы каштуе 226 тысяч долараў. Дом свежы, пабудаваны ў 1997 годзе, стаіць ля плошчы Гедыміна, а ў “камплекце” ідуць паркавачнае месца ў падземным гаражы і балкон ва ўнутраны дворык.

Ёсць прапановы і з відам на раку — трохпакаёўка з вокнамі на Вілію за 296 тысяч долараў. І ўсё роўна танней, чым у Мінску...

**Марыя МАЛЕВІЧ.**

БУДЗЬЦЕ ЗДАРОВЫ!

# Прыбіральня ў кішэні і іншыя цуды беларускай медыцыны

***Аказваецца, амаль любы чалавек, што валодае дастатковай сумай грошай, можа набыць сабе асабістую карэту хуткай медыцынскай дапамогі. Праўда, брыгада ўрачоў у дадатак не ідзе...***

Звычайнаму абывацелю часам падаецца, што айчынная медыцына назаўжды засела недзе ў эпосе бясконцых чэргаў у паліклініцы. Таму, пераступіўшы ганак сталічнага футбольнага манежа, дзе сёлета праходзіць XX Юбілейны беларускі медыцынскі форум “Ахова здароўя Беларусі-2013”, не адразу верыш сваім вачам, якія сведчаць: медыцына перайшла на касмічны ўзровень.

Нават у дачыненні да лейкапластыра ўжо не станеш ужываць слова “банальны”. Сёння беларускія і замежныя прадпрыемствы выпускаюць пластыр на тканай, сеткавай, палімернай асновах з аддушкамі, антыалергенамі і антысептыкамі. Якая ўжо тут банальнасць...

Іншыя прадметы, прадстаўленыя на выставе, адным сваім знешнім выглядам нагадвалі дэкарацыі да фільмаў у жанры фантастыкі. Напрыклад, апарат “Біяптрон” ад кампаніі Zepter, які нагадвае футурыстычную лямпу, сваім святлом дапамагае лячыць хваробы скуры, пазбаўляцца ад шрамаў і падтрымліваць арганізм у тонусе. Штука, мусіць, карысная, але не вельмі дасяжная — пераносны “Біяптрон” пацягне амаль на 500 долараў.

А вось колькі просяць за машыну хуткай медыцынскай дапамогі, простаму чалавеку лепш не ведаць. Пры гэтым замовіць сабе рэанімабіль можа кожны — толькі плаці.

Большасць медыцынскіх навінак і дасягненняў, што былі прадстаўлены на выставе “Ахова здароўя Беларусі-2013”, разлічаны на спецыялістаў. Звычайны чалавек можа і прытомнасць страціць ад аднаго выгляду тых жа лапараскопаў — інструментаў для правядзення аперацый без вялікіх разрэзаў. Нават бутэлечкі для лекаў тут незвычайныя, а створаны па спецыяльнай тэхналогіі. Слоічкі і бутэлечкі ад нямецкага вытворцы адразу падрыхтаваны да расфасоўкі лекаў. Іх нават мыць перад ужываннем па прызначэнні не трэба!



І яшчэ адзін атрыбут касмічнай эры — міні-біятуалет “Супер Піс-піс”. Кажуць, карыстаецца попытам...

ЛИКБЕЗ

# Олег Волчек заплатит более двух миллионов штрафа

***В результате налоговой проверки выяснилось, что в 2002 году правозащитник не заплатил подоходный налог с продажи второго автомобиля. Ему насчитали штраф и пеню.***

### Объяснения на пальцах к делу не пришьешь

— Меня вызвали в налоговую инспекцию Фрунзенского района №2 в октябре минувшего года и попросили предоставить декларацию о доходах и имуществе, — *рассказал Олег Волчек «Народной Воле»*. — И вот на прошлой неделе история с налоговой наконец закончилась. После длительной проверки мне дали штраф с пеней за неуплату подоходного налога с продажи второго в течение года автомобиля (это было в 2002 году). Теперь я должен заплатить в госказну чуть более двух миллионов белорусских рублей.

Самое интересное, что в те годы я подавал декларацию и отчитывался за продажу той машины, но в налоговой Центрального района не нашлось тех бумаг, и получается, что я не смог доказать этот факт документально. Хотя тогда я писал объяснение, что с продажи автомобиля не получил прибыли. Было разбирательство, и в конце концов выяснилось, что я стране ничего не должен. Но поскольку я сам допустил ошибку, не сделав никаких копий документов, поданных тогда в налоговую, сегодня вынужден был объясняться на пальцах. А такие объяснения, как известно, к делу не пришьешь...



### Вспомнить все за прошедшие 10 лет

— Пообщавшись с налоговыми инспекторами, узнал для себя много нового, — *признается Олег Константинович*. — Например, не все в курсе, что сегодня в налоговой с любого гражданина могут затребовать два вида деклараций — декларацию по подоходному налогу и декларацию о доходах и имуществе. В чем разница?

Декларация по подоходному налогу подается раз в год — до 1 марта. В ней отражаются доходы от продажи автомобилей (если вы продали их больше одного), домов, квартир (в течение пяти лет — больше одной), а также указываются доходы, полученные вами из-за границы, электронные деньги. Со сделок, которые не попали под налогообложение, с вас вычтут 12 процентов. То есть если в России на стройке вы заработали наличными 2000 долларов, то с вас вычтут 12 процентов подоходного. Или молодежь сейчас ездит на три-четыре месяца в Норвегию ловить рыбу, зарабатывает около 3 тысяч евро. Естественно, чтобы спать спокойно и иметь возможность легально совершать любые покупки, лучше с этих денег заплатить налог.

На декларацию по подоходному налогу не существует сроков давности.

Декларацию о доходах и имуществе также могут затребовать с любого гражданина. Причем вас могут проверить сразу за 10 лет. В этой декларации уже подробно указывается все, чем владеет человек (квартиры, дачи, гаражи, машины, драгоценности и предметы искусства, если их стоимость превышает определенную сумму), также вы должны сообщить, когда и у кого брали займы.

Для предоставления этой декларации у вас есть не менее 10 рабочих дней — с момента вручения соответствующего требования. Но если вам нужно отчитаться сразу за много лет, собрать какие-то дополнительные справки, то за три календарных дня до истечения указанного срока подачи вы можете написать заявление о продлении сроков (максимум до 3 месяцев). Спешить с заполнением этой декларации не стоит, ибо, если допустите какую-то неточность, вас могут привлечь к административной ответственности и оштрафовать на сумму от 5 до 50 базовых величин. Срок привлечения к административной ответственности — три года.

### Спящий вулкан

— Мне налоговая напоминает спящий вулкан, — *улыбается бывший следователь прокуратуры Олег Волчек*. — Вроде бы я и не ощущал присутствия налоговиков в моей жизни, а потом вдруг в один момент все как забурлило!

У налоговых служб есть свои базы данных, к ним стекается информация на каждого налогоплательщика. Налоговики обладают достаточно широкими полномочиями в получении сведений из информационных систем, содержащих персональные данные. И поэтому в один прекрасный момент вас могут пригласить отчитаться.

Я уверен, что сотрудники налоговых инспекций анализируют и ту информацию, которая появляется в средствах массовой информации и на различных сайтах о дорогих коттеджах, часах, машинах высокопоставленных чиновников и других госслужащих. Кстати, госслужащие и их члены семьи должны подавать декларацию о доходах ежегодно. Но если их сегодня не пригласили объясняться в налоговую, то это не значит, что не позовут туда завтра. Налоговое дело может формироваться не один год...

НА ВСЯКИЙ СЛУЧАЙ

## *Храните чеки и не стесняйтесь спросить совета!*

***Получив приглашение в налоговую инспекцию, многие сразу начинают нервничать. Логика простая: вроде бы и не скрывал никаких доходов, но если зовут отчитаться — значит, что-то где-то в цифрах не сошлось. О чем нужно помнить, чтобы визит в налоговую не принес больших неприятностей?***

***Вот какие советы дает Олег Волчек.***

— Если вы уже были в налоговой инспекции, не забудьте сделать себе копии всех документов, которые вы туда отдавали. Замечательно, если на них будет стоять подпись или печать специалиста, который у вас принимал бумаги. Как показал мой опыт, и через 10 лет наличие подобных ксерокопий бывает полезным.

Если продали в год одну машину, все равно сходите в налоговую — пусть прибыль от сделки будет зафиксирована документально, чтобы в будущем не возникло никаких вопросов.

Храните чеки и договоры, если речь идет о каких-то крупных сделках — продаже или приобретении недвижимости или того же авто.

И самое главное: если при заполнении бумаг в чем-то сомневаетесь, не стесняйтесь обращаться за помощью — если у вас нет знакомого юриста, специалисты налоговой инспекции всегда дадут профессиональный совет, в этом я убедился на собственном опыте...

**Марина КОКТЫШ.**

ДАРЭЧЫ

## *Беларусы асвойваюць новы від турызму — аздараўленчы*

Першымі працягнуць беларусам гасцінную руку ў медыцынскай пальчатцы вырашылі літоўцы. Напрыклад, прадстаўнікі вільнюскай прыватнай шматпрофільнай клінікі Kardiolita спецыяльна прыехалі на выставу “Ахова здароўя Беларусі”, каб знайсці новых партнёраў і кліентаў.

*“Для нашых пацыентаў з Беларусі мы гатовы адкрыць візу і дапамагчы з прыездам,*— распавёў “Народнай Волі” прадстаўнік клінікі. — *Перад тым як прыняць чалавека на лячэнне, мы азнаёмімся з яго патрабаваннямі, анамнезам і, калі здолеем дапамагчы, возьмемся за працу.*

*Што тычыцца коштаў, то мы не праводзілі маніторынг цэн у Беларусі. Між тым нашы паслугі куды танней, чым аналагічныя сервісы ў Ізраілі ці Германії”*.

Адна з самых папулярных паслуг, якой карыстаюцца нашы суайчыннікі за межамі краіны, — роды.

*“Наша клініка не аказвае акушэрскія паслугі, але мы маем партнёраў, якія могуць дапамагчы,* — прызналіся спецыялісты Kardiolita. — *Пакуль толькі адна беларуска звярнулася да нас па дапамогу ў родах, але дамова так і не была заключана. Як высветлілася пазней, дарэмна, жанчына засталася незадаволена мясцовым узроўнем паслуг”*.

**Марыя МАЛЕВІЧ.**

РОЗЫСК

## *Олег Громыко, откликнитесь!*

*Просим вас оказать всевозможную помощь в поиске Громыко Олега Семеновича, уроженца д.Соболи Брагинского района Гомельской области.*



Сообщаю следующие имеющиеся данные о Громыко Олеге Семеновиче:

— обучался на географическом факультете Могилевского государственного университета имени А.А.Кулешова с 1969-го по 1974 год;

— по состоянию на 28 июня 1969 года проживал по адресу: д. Соболи Брагинского района Гомельской области.

После окончания университета он был направлен в Чаусский район Могилевской области на трудоустройство как молодой специалист.

В 1971 году сопровождал группу студентов, которые прибыли в город Баку Азербайджанской республики для прохождения практики. Был руководителем группы. Мы с ним подружились. Долгое время переписывались, обменивались семейными фотографиями. Друг другу отправляли посылки. Олег стал для меня как брат. Но потом связь прервалась, координаты потерялись. Убедительно прошу вас оказать помощь в поиске Олега...

**С уважением —**
**Газиев Ильгам Габилоглу.**
*AZ5009, г.Сумгаит Азербайджанской республики, 17-й микрорайон, дом 60, кв.10*

РЭЗАНАНС

# Крытыка — без одуму

Калі пачаў чытаць ліст земляка са Слаўгарада Аляксея Кісялёва “Почему болеем?”, то першыя радкі ягонага допісу зацікавілі мяне. Аўтар (шкадую, што не знаёмы з ім) закрануў балючую праблему не толькі для нашага маленькага горада, а і для ўсяго раёна. Каго не хвалюе сёння стан медыцынскага абслугоўвання насельніцтва?

З кожным годам у раёне змяншаецца колькасць спецыялістаў. Няма акуліста, дэрматолага, эндакрынолага, фтызіятра... Гэта вымушае хворых, каму патрэбна профільная дапамога, ехаць у абласны цэнтр.

Аднак, на мой погляд, А. Кісялёў становішча ў раённай бальніцы і паліклініцы, дзе, канечне ж, ёсць цяжкасці і недахопы ў рабоце, малюе занадта ў чорных фарбах, сыпле агульнымі, звышэмацыяльнымі абвіна-ваччаннямі, абыходзячы канкрэтныя факты. Нават не называе імя таго добрага доктара, сапраўды добрага, які ўдастоіўся заслужанай пахвалы аўтара пісьма, але з’ехаў з нашага горада, не атрымаўшы пасаду галоўнага ўрача. Мала таго, А. Кісялёў пераходзіць на здзеклівыя абразы агульнага характару. Пяро яго размашыста, без одуму, выводзіць: «Людей лечит кучка подслеповато-чудаковатых пенсионеров и временная молодежь с сомнительной квалификацией...”

Прачытаў я гэта і абурыўся: як так можна — агулам, пра ўсіх, ды яшчэ ў такой грубай форме? Хіба «гражданин Беларуси», як напышліва імянуе сябе аўтар на пачатку выкрывальнага ліста, мае права беспадстаўна прыніжаць іншых грамадзян, праўда, не называючы іх прозвішчаў, што, вядома, ратуе яго ад судовых позваў.

Так, насамрэч у раёне не хапае ўрачоў, і трэба дзякаваць тым, хто пагадзіўся папрацаваць, маючы права на пенсіённы адпачынак, на прарыўным участку.

Гэтыя людзі даўно зарэкамендавалі сябе сумленнымі, стараннымі спецыялістамі і ўвесь свой багаты вопыт, усю душу ўкладваюць у высакародную справу. Аўтар ліста ў рэдакцыю запалохвае пацыентаў і самога сябе: «В больницу стало страшно ходить! Слишком много фактов некомпетентности этих «врачей». Але чамусьці ніводнага (!) факта гэтай некампетэнтнасці ў сваім допісе не прыводзіць... Вось дык крытыка!

Мне і маёй жонцы Веры Васільеўне, інвалідам, нярэдка выпадае звяртацца па дапамогу ў нашу бальніцу і паліклініку. І ніколі — гэта заяўляю адказна, а маю прынцыповасць землякі ведаюць — мы не сутыкаліся з чэрствасцю, абыякавасцю медыцынскага персаналу: ці то ўрача, ці медсястры, ці санітарак. Робяць яны ўсё магчымае, каб дапамагчы хворым. Дзякуй ім не толькі ад нас!

Думаю, варта было б зірнуць на рэчы крыху шырэй і глыбей: чаму маладыя спецыялісты (і не толькі з медыцынскімі дыпломамі, і не толькі ў Слаўгарадзе), нячаста затрымліваюцца ў глыбінцы, пакідаюць яе, так і не паспеўшы стаць кваліфікаванымі прафесіяналамі? Хіба можна не бачыць: калі няма перспектывы ўладкавацца з жыллём, не задавальняе зарплата за вельмі адказную, напружаную працу, то далёка не кожны стане заседжвацца на месцы. Цікава, куды знікаюць гэтыя кадры, калі нават у сталічных паліклініках шмат участкаў, “не закрытых” адказнымі за іх тэрапеўтамі, і вузкіх спецыялістаў таксама нестае?

Лічу, хранічныя хібы ў справе з аховай здароўя людзей — недапрацоўка з боку вышэйшага кіраўніцтва краіны і адпаведнага міністэрства, мясцовых улад. Гадамі не вырашаюцца найвастрэйшыя праблемы ў стане нашай медыцыны, а то і замоўчваюцца. На іх вырашэнне, зразумела, патрэбны фінансы, а іх не хапае. Таму і ідуць патэнцыяльныя ўрачы ў гандаль, бізнес — куды заўгодна, толькі падалей ад сваёй спецыяльнасці. “Амбразуру” ж закрываюць медыкі-пенсіянеры. Дай Бог ім і іх падапечным добрага здароўечка і душэўнага спакою, адчування людской павагі і ўдзячнасці за тое, што яны робяць!

Не разумею і тое, чаму раённыя ўлады не прымаюць дзейсных мер для вырашэння кадравай праблемы ўвогуле. На вачах старэе наш Слаўгарад, мясцовая моладзь у пошуках месца працы раз’язджаецца па вялікіх гарадах, бо адно за адным тут зачыняюцца прадпрыемствы, якія выраблялі вельмі патрэбную людзям прадукцыю, давалі многім жыхарам рабочыя месцы. І што ў нас будзе без моладзі? Пэўна, пустыня, ва ўсякім разе, раённую арганізацыю БРСМ прыйдзецца закрываць... Як можна жыць без перспектывы, не зазіраючы ў заўтрашні дзень? Няўжо залётныя з далёкіх сусветаў іншапланецяне пабудуюць для нас шчаслівую будучыню?

**Фелікс ШКІРМАНКОЎ,**
**жыхар Слаўгарада,**
**інвалід Вялікай Айчыннай вайны II групы.**

ТАК ДУМАЮ...

## *Люблю стары аэрапорт!..*




Канчаткова вырашылася пытанне аб будаўніцтве раёна “Мінск-Сіці” і зносе авіярамонтнага завода. Праз 8--10 гадоў увысь узляцяць новыя высотныя дамы і офісы, магчыма, і цэнтр сталіцы перамесціцца сюды, бліжэй да старога аэрапорта. А якое прызначэнне атрымае ўзлётная паласа, доўгая і шырокая, пакажа час. Можа, яна стане прывабнай аўтадарогай, альбо яе парэжуць на якія-небудзь кавалкі. Шкада будзе, калі знясуць вышку авіядыспетчараў. Неяк не верыцца, што хоць пальцам крануць будынак аэрапорта. На мой погляд, ён павінен застацца як помнік архітэктуры, як помнік беларускай грамадзянскай авіяцыі.

Мне самому пашчасціла 16 гадоў адпрацаваць у аэрапорце (старым і новым) горада Гродна. Дзясяткі разоў я прыбываў у сталіцу паветраным шляхам, ад той пары засталіся толькі добрыя ўспаміны.

Хацелася б памарыць, каб тут, у раёне аэрапорта, зрабілі верталётную пляцоўку для санітарнай авіяцыі альбо музей лёгкакрылай авіяцыі. Перон тут вялікі, і нішчыць яго, мне падаецца, не мае сэнсу, непадалёк і будынак Упраўлення грамадзянскай авіяцыі. Пабачым, як сённяшняя ўлада вырашыць гэтае нялёгкае “лётнае” пытанне. На мой погляд, марку тут трэба трымаць высокую...

**Аляксей Іванавіч БУЦЬКО.**
*Гродна.*

ВАС ЦІКАВІЦЬ...

## *Што такое навучанне па сістэме 4+2?*

*Днямі краем вуха пачула, што Беларускі дзяржаўны ўніверсітэт інфарматыкі і радыёэлектронікі пераходзіць на навучанне па сістэме 4+2. Патлумачце, калі ласка, што гэта такое.*

**Ірына АНДРЫЕВІЧ, Мінскі раён.**

Сапраўды, з 2013/2014 навучальнага года БДУІР па ўсіх 36 спецыяльнасцях пераходзіць на навучанне на 1-й і 2-й ступенях вышэйшай адукацыі па сістэме 4+2.

Гэта значыць, што па заканчэнні першага і другога курсаў студэнт пры жаданні будзе мець магчымасць перайсці на любую спецыяльнасць з мінімальнай раздачай акадэмічнай розніцы, паколькі навучальныя планы і праграмы па ўсіх спецыяльнасцях на першым і другім курсах максімальна ўніфікаваны.

*“Пасля чатырох гадоў навучання маладыя людзі змогуць паступіць у магістратуру, навукова-даследчую або практыка-арыентаваную, тэрмін навучання ў якой складае два гады*, — удакладняе belta.by са спасылкай на словы рэктара БДУІР Міхаіла Батуры. — *У першай будуць рыхтаваць даследчыкаў, накіраваных на паступленне ў аспірантуру, а ў другой будзе весціся паглыбленая інжынерная падрыхтоўка. Такім чынам, на рынак працы будуць прыходзіць кадры, гатовыя не толькі працаваць з сучаснымі тэхналогіямі, але і распрацоўваць свае інавацыйныя прадукты”.*

ОСТРАЯ ПРОБЛЕМА

# Многие мужчины не только пьют, они еще и банальные альфонсы!



Недавно прочитал о нерадостном демографическом будущем Беларуси, что мы никак не можем перешагнуть десятимиллионный рубеж. Одна из причин такая: немало мужчин в возрасте 25—45 лет у нас не годятся для продолжения рода...

А беда в первую очередь в том, что у нас процветают пьянство, курение и наркомания. Эти пагубные привычки уносят жизни тысяч молодых мужчин раньше времени. Не верите? Сходите на любое кладбище и посмотрите, сколько мужчин там захоронено за последние десять лет! И в большинстве случаев первичной причиной смерти стал алкоголь и наркотики.

Много лет назад был на похоронах сына одного работника ЦК КПБ, и он, прощаясь с единственным сыном, произнес: «*Она победила тебя, сынок*». Я не понял, что он имел в виду, и спросил об этом своего близкого друга. Тот сразу пояснил: она — это водка....

А сколько в наши дни таких похорон?

Мне просто порой жалко наших женщин. Им всегда было непросто найти вторую половину, а сейчас — тем более. Сегодня значительно увеличилось количество гомосексуалистов, а многие молодые мужчины являются банальными альфонсами! Увы, но такова жизнь...

А еще мне кажется, что в нашей стране борьба с пьянством, наркотиками и иным злом не стала национальным приоритетом, несмотря на соответствующие декреты президента. Что дальше? Ответа, к сожалению, не нахожу...

**С уважением —**

**Юрий ЯСИНСКИЙ,**
**ветеран труда и спорта.**
*Минск.*

ПЕРЕПИСКА

## *Чего Вам бояться?*

*Совет В.А.Барановской из Бреста, письмо которой напечатано в «Народной Воле» 5 февраля 2013 года под заголовком «Лучше бы я отказалась от такого наследства...»*

Уважаемая Вера Адамовна!

Если все обстоит именно так, как Вы пишете, то у Вас есть очень простой и действенный выход из этой ситуации. Какой? Немедленно прекратите платить за квартиру брата. Почему мы, белорусы, так боимся каждой присланной бумажки и каждого мелкого начальника? Оплачивайте только ту квартиру, где живете. Пришлет ЖЭС счет за вторую квартиру — так выбросьте его в урну! Присудил суд платить? И эту бумажку туда же. Что они могут Вам сделать? А ровным счетом ничего!

ЖЭС начнет, конечно, слать Вам «грозные» предупреждения. Мол, приедем и все отключим. При этом, конечно, «забудут» уточнить, что отключить воду и свет они могут только в той квартире, где задолженность. А в Вашей собственной квартире они ничего сделать не могут! Вы даже имеете полное право не пускать их на порог! А у брата пусть отключают все что хотят. ЖЭС имеет право через суд выселить жильцов с большой задолженностью, квартиру продать, взять себе сумму задолженности, а остальное вернуть. Так что Вы еще и получите 1/3 оставшихся денег. Чего Вам бояться? Пенсию не отнимут, из дома не выгонят. Так что возьмитесь с сестрой за руки, встаньте с колен и перестаньте быть рабочей лошадкой, на которой все ездят. Человек сам хозяин своей судьбы. Если, конечно, это Человек, а не раб.

Долгих лет жизни Вам!

**Олег Вячеславович ЧЕРЕВИКОВ.**
*г.Фаниполь.*

З ПОШТЫ ГАЛОЎНАГА РЭДАКТАРА

## *Правільна робіце, што даяце слова ў газеце людзям з рознымі думкамі і поглядамі*

Паважаны Іосіф Паўлавіч!!

Уважліва некалькі разоў перачытаў Ваш зварот да чытачоў, да сумленных беларусаў “Перажываю...”. Скажу адкрыта: з Вамі перажываем і ўсе мы, чытачы “Народнай Волі”. Можа, Вас гэта і не суцешыць, але хоць нас і мала, але разам мы — вялікая сіла. А тыраж газеты не надта вялікі, бо яшчэ мала сапраўдных беларусаў. Ведаю па сваім вопыце, што многа тых, хто не можа па службовым абавязку падпісацца на газету. А колькі тых, хто па фінансавай прычыне не можа гэта зрабіць! Але яны чытаюць “Народную Волю”, падзяляюць пазіцыю рэдакцыі. Правільна робіце, што даяце слова ў газеце людзям з рознымі думкамі і поглядамі. Гэта робіць газету цікавейшай, справядлівай.

Плёну Вам і ўсім супрацоўнікам “Народнай Волі” ў той справе, якую робіце сумленна, адкрыта і мужна!

**З павагай —**

**Уладзімір ГУК.** *Пінскі раён.*

ВОЗВРАЩАЯСЬ К НАПЕЧАТАННОМУ

# Еще раз о реабилитации политических заключенных

В феврале в «Народной Воле» был напечатан материал М.Пастухова «Запоздалая реабилитация» (№12, 12.02.2013 г.). Это весьма актуальная тема, особенно в отношении политических заключенных, которые до сих пор остаются в заложниках нынешней власти.

Профессор М.И.Пастухов рассматривает несколько возможных вариантов решения проблемы реабилитации такой категории лиц: 1) освобождение всех политических заключенных без всяких условий; 2) отмена приговоров в порядке надзора или по вновь открывшимся обстоятельствам; 3) принятие специального закона о реабилитации жертв политического террора в Беларуси.

Как юрист с многолетним стажем работы предлагаю уточнить позицию по второму варианту реабилитации. Для этого вернемся к обстоятельствам события на Площади 19 декабря 2010 года. Просмотрев телевизионную картинку тех событий, можно понять, что власти заранее готовились к «штурму» Дома правительства. Об этом свидетельствуют и действия милиции, в том числе гаишников, которые беспрепятственно разрешили народу пройти по главному проспекту. При подходе к Дому правительства цепи работников милиции без всякого воздействия со стороны собравшихся свернулись, освобождая доступ к зданию. Сразу же появились какие-то «люди в шапочках» с металлическими лопатами для очистки льда. На глазах стражей правопорядка несколько человек стали крушить двери и стекла здания. Это все напоминало план разработанной операции. Еще одно подтверждение этого — экипированные «космонавты» внутри здания правительства.

В данном случае из телекартинки видно, что имели место действия, подстрекающие к беспорядкам со стороны лиц, призванных охранять общественный порядок. То есть речь идет о заранее подготовленной провокации против людей, пришедших на площадь, с их последующим разгоном, избиением, задержанием.

При рассмотрении уголовных дел о «массовых беспорядках» суд почему-то уклонился от выяснения фактов, свидетельствующих о провокации со стороны представителей власти, хотя по закону обязан был исследовать обстоятельства дела «всесторонне, полно и объективно» (ст.18 Уголовно-процессуального кодекса).

То есть можно говорить об односторонности или неполноте судебного следствия, что является основанием к отмене или изменению приговора (ст.388 УПК).

Возникает вопрос: знали ли об этом судьи, выносившие приговоры в отношении участников тех событий? Ответ однозначный — да. Так почему они не поступили в соответствии с законом? Ответ тоже очевидный: в нынешних условиях такое понятие, как «независимость суда», судьями позабыто.

Так что при втором варианте реабилитации не нужны никакие протесты. И так все ясно: людей засудили без всяких к тому оснований, разыграв спектакль под названием «Правосудие». Невиновные не нуждаются в реабилитации, а вот виновные в осуждении невиновных подлежат наказанию по всей строгости закона.

**Игорь КАБАЛИК, юрист.**

АСАБІСТАЕ

# Мне і зараз сніцца гэтая ліпа...

Я нарадзілася ў цудоўным маляўнічым кутку Нарачанскага краю — вёсцы Урлікі. Сорак год майго жыцця былі звязаны з гэтай вёскай і яе жыхарамі, хоць сама я ўжо 20 гадоў жыву ў аграгарадку Нарач. Але ва Урліках — мае карані, тут жылі мае бабуля і дзядуля, маміны браты — мае дзядзькі са сваімі сем’ямі. Тут кожны вясковец знаёмы мне з дзяцінства і дарагі, як родны і блізкі.

Калісьці наша вёска была вельмі прыгожай — дыхтоўныя хаты, акуратна прыбраныя двары з мноствам кветак, дагледжаныя гароды. Пры кожнай хаце меліся невялікія садзікі, увосень галінкі дрэў аж хіліліся долу пад цяжарам буйных духмяных яблыкаў. А над вёскай, як волаты высіліся старыя ліпы, нібы вартуючы спакой жыхароў.

Самую старую ліпу ў дзядуліным двары пасадзіла яшчэ мая прабабка, перабраўшыся сюды на жытло. Уявіце, колькі ёй год! А яна кожнае лета ўбіраецца ў цудоўны вэлюм гаючых духмяных кветак. Яна перажыла вайну, яна вартавала пусты падворак, калі сям’я была на заробках у Карэла-Фінску, яна радавалася, калі побач са старой прадзедаўскай хаткай вырасла новая, вялікая і прыгожая хаціна. Мне і зараз часта сніцца гэтая вялізная зялёная ліпа над мілай маёй вёсачкай.

А вёскі няма! Ліпа ёсць, толькі няма каму хавацца ў спякоту пад яе шаты. Спачатку ў вёскі адабралі яе імя, і пачала яна звацца курортным пасёлкам Нарач, хоць да яго два кіламетры. А потым з вёскі выселілі яе жыхароў. Ім выдзелілі кватэры ўсё ў тым жа курортным пасёлку.

А вёску зруйнавалі. Хто паспеў, той прадаў родныя хаты на перавоз, астатнія спешна разабралі на дровы, а рэшткі засыпалі пяском, бо камусьці спатрэбілася гэтая зямля.

Наогул, дзіўная ў нас назіраецца з’ява: адны бядуюць, што пусцеюць вёскі, хаты стаяць закалочаныя, а тут — упарадкаваную жылую вёску пускаюць пад лязо экскаватара. Прыкра і балюча ад такой “гаспадарлівасці”...

**З павагай —**
**Ілона АРЦЮХОВА.**

БЫВАЕТ...

# Верность друга по имени Барсик

Совсем недавно я оказался свидетелем случая, который взволновал не только меня.

В поселке Черницкий, в 12 километрах от Смолевичей, случилась беда: умер пожилой человек. Чистил лопатой снег около дома, упал — и тут же скончался. Рядом с ним сидела опечаленная собака Барсик...

В траурном шествии до края поселка шел и этот самый Барсик, даже несколько впереди людей. Его глаза были полны боли. Видно было, что он очень переживает и понимает все, что происходит.

Прошло три дня после похорон. К вечеру Барсик зашел в дом. Обошел все комнаты, кухню, заглянул в туалет и ванную. И вышел. Понятно было — он искал своего хозяина. А вечером собаку нашли мертвой на том же месте, где пять дней назад лежал без дыхания его хозяин. Поразительно, но это факт.

Пишу, чтобы воздать должное благодарной собаке за доброту и верность поистине человеческую...

**С искренним и неизменным к вам уважением —**
**Минчанин.**

### ОТ РЕДАКЦИИ

*Уважаемый Минчанин (не знаем, к сожалению, как Вас звать-величать), благодарим за интересную заметку. Но... Разве можно вот так, прячась за безликим псевдонимом, писать в уважаемую Вами газету? И какой, скажите, резон прятаться за подписью-псевдонимом под совершенно безобидным посланием? Мы ждем от всех своих авторов: решились написать — пишите, но только подписывайтесь собственным именем.*

SOS!

# Не заслужили

Здравствуйте!

В №18 ваша газета поместила заметку ветерана войны и труда В.П.Аржаникова «Родина-мать, верни мне долг...». На 100% согласен с автором письма: ветераны в Беларуси зачастую — люди второго сорта, никому не нужный отработанный материал.

В нашей семье тоже есть ветеран — дедушка. Еще лет 15 назад мама предлагала дедушке переехать к нам в Минск, прописаться и встать на очередь на расширение, чтобы на старости лет не сидеть в холодной деревенской избе. Так делали тогда многие. Мой дед, истинный коммунист, ответил категорическим отказом: «Мне и в деревне хорошо. Я своей совестью не спекулирую».

Прошли годы. Здоровье деда резко ухудшилось. Четыре года назад в Боровлянах ему сделали очень серьезную операцию. Он остался жить у нас, мы его прописали и встали на очередь на улучшение жилищных условий. Какое же было у деда разочарование и негодование, когда спустя два года его, ветерана, выкинули из льготной очереди на жилье и перевели на общую. Сейчас в нашей квартире проживает 9 человек: 7 прописаны и 2 без прописки. Живем по очереди. Деда на лето увозим в деревню. Время от времени снимаем дополнительно однокомнатную квартиру. Дед хорошо помнит, что в свое время отказался прописываться, а сейчас ему стыдно нас стеснять. Он часто плачет, когда видит, что мама стелет себе постель на кухне под столом. В нашей семье обычное явление, когда взрослый женатый сын спит с матерью в одной кровати, правда, под другим одеялом. Потому что иного выхода просто нет. За то, кому жить в большой комнате, идет настоящая война.

Последний раз, когда мама ходила в квартирный отдел Московского райисполкома, чтобы прозондировать почву насчет строительства хотя бы однокомнатной квартиры, ей сказали так: «Дедушка-ветеран стоять в очереди на квартиру имеет право, а строиться по льготному кредиту или в составе семьи внука — не имеет» (!) Получить социальное жилье ветераны могут только спустя 10 лет после того, как переехали в Минск. То есть нашему деду ждать еще 6 лет, ему тогда будет 92 года. Дождется? Построить же даже однокомнатную квартиру под 16% годовых всем нам вместе не по карману: две молодые семьи с маленькими детьми живут от аванса до зарплаты. Льготный процент (5% или 6%) ветераны не заслужили. Зато его заслужили милиционеры, судьи и прокурорские работники. И ждать 10 лет им не надо. Вот такая справедливость по-белорусски.

В конце марта наш дедушка отправляется на три недели в госпиталь ВОВ, а потом — в деревню. Моя мать наконец переедет из кухни в детскую... до осени.

Хотя до 9 Мая еще больше месяца, хочу через вашу газету поздравить всех ветеранов с наступающим праздником Победы. Терпения Вам и здоровья.

**Алексей ИВАНОВ.**
*Минск.*

